# Наша Свабода

№22(249) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

25 ЛЮТАГА 2002 году ПАНЯДЗЕЛАК

Адрас: 220123, г.Мінск, а/с 103

тэл. 284-36-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by

http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ


## У нас будзе прафесійная армія

23 лютага Аляксандр Лукашэнка ўзяў удзел у мерапрыемствах, прымеркаваных да Дня абаронцаў Айчыны. Віншуючы ўсіх тых, хто нясе ваенную службу, Лукашэнка падкрэсліў: дзейнасць Узброеных Сіл і праваахоўных органаў высока ацэньваецца ў беларускім грамадстве.

Кіраўніцтва Беларусі, паводле яго слоў, зробіць усё, каб прывесці абаразнадзольнасць і бяспеку дзяржавы ў адпаведнасць з палітычнымі задачамі, міжнародным і ўнутраным становішчам, сацыяльна-эканамічнымі магчымасцямі краіны. Будучыню беларускай арміі Лукашэнка бачыць у стварэнні прафесійных Узброеных Сіл, што, на яго думку, магчыма толькі пры ўмове кампетэнтнай і мэтанакіраванай працы ўсіх інстытутаў дзяржаўнай улады.

У сваю чаргу, міністр абароны Беларусі Леанід Мальцаў падкрэсліў, што «падчас маштабных пераўтварэнняў, што сёння ажыццяўляюцца, па сутнасці ствараецца новая армія – армія, якая адпавядае рэаліям... XXI стагоддзя».

Міністр выказаў перакананасць у тым, што ўсе меркаваныя пераўтварэнні будуць ажыццёўленыя, паколькі «беларускі народ і дзяржава заўсёды надавалі і надаюць вялікую ўвагу арміі».

*Заканчэнне на стар.3*

## Адтэрміноўка для саюзнага рубля

Як мяркуецца, рашэнне аб стварэнні адзінага эмісійнага цэнтру Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі будзе прынята супольна з зацверджаннем Канстытуцыйнага акту ў 2003 годзе. Пра гэта на прэс-канферэнцыі ў Мінску паведаміў старшыня праўлення Нацыянальнага банку Беларусі Пётр Пракаповіч.

У сваю чаргу, намеснік старшыні Цэнтральнага банку Расійскай Федэрацыі Алег Мажайскаў зазначыў, што на гэтую праблему варта глядзець не як на праблему сённяшняга дня. «Гэта не настолькі актуальна, – сказаў Мажайскаў. – Больш важна ствараць такія ўмовы ў грашова-крэдытнай палітыцы, якія б зблізілі нашы краіны і дазволілі б эканамічным агентам функцыянаваць на ўсёй эканамічнай прасторы як на адзінай цэлай». На яго думку, сёння вызначаць структуру адзінага ў будучым цэнтрабанку і эмісійнага цэнтру «далёка не так важна».

**Аляксей АРЭШКА**

# Свята скончылася





*Беларускія жанчыны дачакаліся: іхнія мужы нарэшце адсунуліся ад тэлевізараў, каля якіх прабавілі дзесяткі гадзін з 8 па 24 лютага. Свята спорту – зімовыя Алімпійскія гульні-2002 у амерыканскім мармонскім Солт-Лэйк-Сіці – завершылася. Сёння зранку прайшла цырымонія афіцыйнага закрыцця Алімпіяды, якая шмат чым парадавала і здзівіла беларусаў.*

Нас парадавала, як выглядалі беларускія спартоўцы на снезе і лёдзе блізу Салёнага возера ў штаце Юта, хоць наша каманда не выканала пажаданняў кіраўніка Нацыянальнага алімпійскага камітэту і ўсёй краіны Аляксандра Лукашэнкі ўзяць аж 5 медаляў і нават не ажыццявіла плану Міністэрства спорту і турызму на тры медалі. У нашай скарбонцы адзін бронзавы медаль – у фрыстайліста Аляксея Грышына. Гэта горш за Алімпіяду ў Нагана ў 1998 годзе, дзе былі дзве «бронзы», і горш за Лілехамер 1994-га, дзе былі два «срэбры».

Мы задаволеныя не толькі таму, што галоўны алімпійскі прынцып – не перамагаць, а ўдзельнічаць. Па пунктах, якія даюцца ў неафіцыйным заліку за месцы з першага па восьмае, беларусы выступілі значна лепш, чым на мінулай Алімпіядзе ў Японіі. А апынуцца ў «васьмёрцы» – гэта ўжо ёсць які гонар, асабліва калі параўнаць мізэрныя грошы, што абарачаюцца ў беларускім спорце, з мільёнамі даляраў на развіццё зімовых відаў спорту ў заможных краінах свету. А сенсацыйная перамога нашых хакеістаў над шведамі, можа, і на эквівалент залатога медалю пацягне. Цяпер, трэба меркаваць, ударныя будоўлі лядовых палацаў па гарадах Беларусі разгарнуцца з новай сілай. Праўда, 1:8 ад фінаў і амерыканцаў, 1:7 у паўфінале ад канадцаў і 2:7 у матчы за трэцяе месца ад расейцаў трохі наводзяць на думкі пра «халяву».

Найгоршымі ж вынікамі Алімпіяды-2002 для Беларусі стаў допінгавы скандал вакол нашай шорт-трэкаўкі Юліі Паўловіч, высылка з Солт-Лэйк-Сіці шэфа беларускай місіі Яраслава Барычкі, а следам – заява Міжнароднага алімпійскага камітэту аб прыпыненні фінансавай дапамогі беларускаму НАК.

Затое беларусы, нягледзячы на адзін завяваны «метал», не кінуліся ў істэрыку, як расійская зборная, якая амаль у кожным відзе спорту падавала пратэсты супраць неаб'ектыўнага суддзейства і змовы супраць Расіі. Абурыліся не толькі тамтэйшыя спартоўцы, але і дэпутаты Дзярждумы і нават Аляксій II. Расійцы, відаць, не могуць перажыць, што яны не на першых ролях на зімовай Алімпіядзе, як тое было за часоў СССР.

**Якуб ФРЫСТАЙ**

**ВЕСТКІ**



## Налятай – патаннела!

У Мінску з 20 лютага па 10 сакавіка ладзіцца штогадовы агульнагарадскі пашыраны распродаж тавараў беларускіх вытворцаў. У трох дзесятках крамаў сталіцы па зніжаных цэнах прадаюцца зімовыя паліто, абутак, верхні і ніжні трыкатаж – напрыклад, у «Гандлёвым доме на Нямізе», універмагах «Беларусь», «Кірмаш», «Кастрычніцкі», «Першамайскі» і, натуральна, у ЦУМе і ГУМе.

## Алкагольны сюрпрыз з 1821 году

Пры рэканструкцыі старажытнага будынку ў Шчучыне знайшлі пляшку мандарынавай гарэлкі выпуску 1821 году. Як падае радыё «Рацыя», знаходка, якая ляжала ў перагародцы дому, уяўляе сабой парцэлянавую ёмістасць, закаркаваную сургучнай пячаткай заводскай вытворчасці. Пазнакі на пляшцы ды пячатцы сведчаць пра тое, што гарэлка была зроблена ў Лодзі, што ў Польшчы. Пляшку распілі будаўнікі.

## Рэха вайны

Летась ад выбухаў снарадаў, што засталіся ў беларускай зямлі пасля вайны, загінулі 3 нашы суайчыннікі. Яшчэ 4 чалавекі атрымалі сур'ёзныя калецтвы, а 3 – лёгкія траўмы. За мінулы год нашыя сапёры абясшкодзілі 11 тысяч адзінак боепрыпасаў.

## Заробкі медыкаў

Паводле звестак, прыведзеных міністрам аховы здароўя Уладзіславам Астапенкам, на канец мінулага году сярэднямесячная зарплата працаўнікоў сістэмы аховы здароўя склала крыху больш за 105 тысяч рублёў, ці 71% ад сярэднямесячнай заработнай платы ў прамысловасці.

## Дзеці ігнаруюць святлафоры

За апошнія 5 гадоў у Беларусі ў дарожна-транспартных здарэннях загінула 431 дзіця, 4 тысячы малых і падлеткаў атрымалі раненні. Гэтыя звесткі падаў намеснік міністра ўнутраных справаў Аляксандр Шчурко. У 2001 годзе ў нашай краіне ў ДТЗ пацярпелі 753 дзіцяці, а загінулі 66 – альбо кожны дзясяты з усіх, хто гіне ў аварыях на беларускіх дарогах. Асноўныя прычыны гібелі дзяцей – пераход дарогі ў неўстаноўленых месцах і ігнараванне сігналаў святлафору.

# Дэмакратызацыя ў Беларусі спынілася

*Намеснік памочніка дзяржаўнага сакратара ЗША Стывен Пайфер, які наведаў Беларусь з візітам 20-22 лютага, застаўся незадаволены ўзроўнем дэмакратыі ў нашай краіне.*



У сваёй заяве па выніках візіту амерыканскі дыпламат адзначыў, што ў ключавых сферах дэмакратызацыі Беларусі не назіраецца прагрэсу. Больш за тое, пасля леташніх верасьнёўскіх выбараў сітуацыя з правамі чалавека яшчэ больш пагоршылася. У якасці прыкладу С.Пайфер згадаў затрыманні апазіцыйных і моладзевых лідэраў.

Па-ранейшаму без зменаў застаецца выбарчае заканадаўства, уладныя паўнамоцтвы парламенту не пашыраюцца, сродкі масавай інфармацыі працуюць, як і раней, у вельмі складаных умовах. На дадатак да гэтага, беларускія ўлады дагэтуль не пагадзіліся прыняць новага кіраўніка Кансультацыйна-назіральнай групы АБСЕ.

На выніковай прэс-канферэнцыі Стывен Пайфер нагадаў усім прысутным словы амерыканскага прэзідэнта Джорджа Буша, сказаныя ім 17 верасня мінулага году – аб тым, што палітыка ЗША ў дачыненні да Беларусі адзіная: Беларусь і яе народ могуць і мусяць стаць часткай адзінай, свабоднай і мірнай Еўропы. Менавіта таму Урад Злучаных Штатаў заклікае беларускае кіраўніцтва правесці дэмакратычныя рэформы, каб краіна адпавядала міжнародным дэмакратычным стандартам, якія Беларусь прыняла разам з уваходам у Арганізацыю па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе.

*Заканчэнне на стар.3*




**НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА**




Крыніца: www.gismeteo.ru

**Курс наяўнага даляра на «чорным рынку» 1680**

# Віцебшчыну заваліла снегам

Атлантычны цыклон абрынуўся 21 лютага на паўночны рэгіён краіны. Паводле словаў інжынера-аграметэаролага Віцебскаблгідрамету Валерыя Нярозі, менш чым за суткі па вобласці выпала дэкадная норма ападкаў, а ў паўночнай яе частцы – паўмесячная. Напрыклад, паводле звестак гідралагічнай станцыі «Полацк», у рэгіёне выпала 13,6 міліметра ападкаў пры норме трэцяй дэкады апошняга зімовага месяца 9 міліметраў (месячная норма для лютага складае 32 міліметры). Вышыня снежнага покрыва ў сярэднім па Віцебскай вобласці павялічылася на 10-15 сантыметраў.

**Андрэй АЛЯКСАНДРАЎ**

# Калегіум выселілі з Купалаўскай бібліятэкі

Вольную беларускую адукацыю змусілі выправіцца ў віртуальны свет. Хутка ў інтэрнэце мае з'явіцца старонка Беларускага калегіуму. Калегіуму цяпер няма дзе ладзіць свае заняткі. Адміністрацыя бібліятэкі імя Янкі Купалы ў Мінску скасавала дамову аб арэндзе памяшкання, дзе штоаўторка па вечарах праводзіліся публічныя лекцыі як беларускіх, гэтак і замежных знаўцаў самых розных галін гуманітарных ведаў. Беларускі калегіум існуе ўжо 4 гады і дае сваім слухачам веды па журналістыцы, філасофіі, літаратуры і найноўшай гісторыі.

**Мар'ян КАРЫМОНТ**

# Самы чысты – Мінск

Па выніках нацыянальнага агляду санітарнага стану і добраўпарадкавання паселішчаў у 2001 годзе Мінску прысуджана першае месца і грашовая прэмія ў памеры 80 мільёнаў рублёў.

Як паведамілі БелаПАНу ва ўпраўленні энергетыкі і гарадской гаспадаркі Мінгарвыканкаму, грошы гораду пералічаць у першым квартале 2002 году. 70% сумы будзе накіравана на закупку машынаў для зграбання лісця, 30% – на прэміі найлепшым працаўнікам службаў, якія адказваюць за санітарны стан гораду.

Агляд праводзіцца, пачынаючы з 1998 году. У ім удзельнічаюць гарады па чатырох катэгорыях, у кожным ствараецца рэгіянальная працоўная група, якая збірае неабходныя матэрыялы і аддае іх у камісію. Па выніках агляду камісія прысуджае толькі першае месца. Мінск здабывае прэмію ўжо другі раз.

**Лавінія АРЭШКА**

# Мільёны на ўраганы

Савет міністраў прыняў пастанову «Аб фінансаванні мерапрыемстваў па ліквідацыі наступстваў надзвычайных сітуацый, якія мелі месца на тэрыторыі рэспублікі ў 2001 годзе». Напрыклад, Брэсцкаму аблвыканкаму выдзяляецца 50 мільёнаў рублёў, Гродзенскаму – 122,7 мільёна, а Мінскаму – 131,5 мільёна рублёў на завяршэнне аднаўленчых работ і пакрыццё выдаткаў арганізацыям, прыцягнутым для ліквідацыі наступстваў надзвычайных сітуацый, што адбыліся летась.

**Марат ГАРАВЫ**

# РНЕшнікі сядуць за краты

У Мінскім гарадскім судзе завяршыўся працэс над двума чальцамі беларускага аддзялення праварадыкальнай арганізацыі *«Русское национальное единство»* (*РНЕ*) – Ігарам Солярам і Канстанцінам Дашкевічам, якіх абвінавачвалі ў забойстве свайго таварыша па *РНЕ*, 21-гадовага Максіма Брэйнера. Дашкевіча, апрача таго, абвінавачвалі яшчэ ў адным забойстве, учыненым у 1997 годзе, а таксама ў незаконных дзеяннях з агнястрэльнай зброяй.

Брэйнера забілі ў Мінску 2 студзеня 2001 году. На ягоным целе знайшлі сляды збіцця, некалькі нажавых і агнястрэльных раненняў. Паводле версіі следства, і забойцы, і іх ахвяра знаходзіліся ў стане алкагольнага ап'янення. Як сцвярджалі абвінавачаныя, падчас сваркі Брэйнер нібыта першы напаў на іх і спрабаваў стрэліць з рэвальвера, аднак Дашкевіч выбіў зброю і ў бойцы забіў Брэйнера.

Разам з тым маці нябожчыка, выступаючы ў судзе як прадстаўнік пацярпелага боку, заявіла, што незадоўга да трагедыі яе сын вырашыў пакінуць *РНЕ* і імкнуўся не браць удзелу ў дзейнасці арганізацыі. Ігар Соляр, паводле словаў жанчыны, займаў у *РНЕ* даволі высокае становішча, быў «*соратником*» і інструктарам па рукапашным баі.

Суд прызнаў І.Соляра вінаватым у забойстве М.Брэйнера і асудзіў яго да 15 гадоў зняволення ў калоніі строгага рэжыму, К.Дашкевіча – да 17 гадоў.

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

# Крэдыты на пасяўную з грошай насельніцтва

Пра «мёртвыя» 40 мільярдаў рублёў, закапаныя ў 2001 годзе ў стратную эканоміку, нагадваюць гаспадарнікам Брэстчыны тамтэйшыя банкіры, калі тыя патрабуюць новыя крэдыты на пасяўную. Без фінансавай дапамогі з Мінску і адтэрміноўкі плацяжоў за мінеральныя ўгнаенні, паліва і новую тэхніку самой вобласці давядзецца на месцы наскрэбці як мінімум 53 мільярды рублёў, інакш трактары заглохнуць у баразне. Варыянтаў папярэдзіць прастоі няшмат. Ад затрымкі зарплаты сельскім працаўнікам «набяжыць» не больш як 7 мільярдаў. Прыкладна на такую ж суму можна разлічваць ад продажу небагатай астачы кандыцыйнай жывёлы і невялікіх надояў малака. Іншай прадукцыі ў калгасах няма. Застаецца зноў, як той казаў, браць загрудкі банкіраў. Тыя хаця і ўстаюць на дыбкі са злосці за ранейшыя праедзеныя крэдыты, але сілы ўва ўлады больш. Зараз аблвыканкам папярэдзіў усе філіі 16 банкаў, што ёсць у рэгіёне, аб назапашванні грашовай масы на патрэбы сельскай гаспадаркі. Па сутнасці, гэта загад «вертыкалі» вывесці з банкаўскага абарачэння грашовыя зберажэнні насельніцтва. Калі верыць звесткам, якія агучваюць на гаспадарчых нарадах банкіры, зараз на «чорны» дзень на асабістых рахунках у банках жыхары захоўваюць у сярэднім па 120 000 рублёў на кожнага (ад малога да старога). Хоць гэта і мізэрныя грошы, але калі б не было іх – сейфы ў банках былі б зусім пустыя.

**Галіна БАРАВАЯ**

# Пэндзаль і беларуская прырода

22 лютага ў мінскай галерэі «Прырода і творчасць» Рэспубліканскага экалагічнага цэнтру навучэнцаў (Макаёнка, 8) адкрылася мастацкая выстава «Экаарт'2002». На ёй прадстаўлены жывапісныя палотны творчага аб'яднання «Пагоня» Беларускага саюзу мастакоў (БСМ).

Паводле словаў сябра прэзідыуму БСМ, кіраўніка аб'яднання «Пагоня» Міколы Купавы, праблемы чыстага паветра, флоры і фауны, а значыць, і жыцця чалавека, асабліва абвастрыліся пасля Чарнобыльскай катастрофы. «Я думаю, што наступныя вернісажы мы можам прысвяціць, напрыклад, пакінутым вёскам, зніклым помнікам культуры і прыроды. Таму, што мала хто ведае. Раней у Мінску было дзевяць рэчак, назваў многіх з якіх зараз нават і не памятаюць», – сказаў Мікола Купава. Ён прапанаваў стварыць аб'яднанне мастакоў, якія будуць не толькі адлюстроўваць экалагічныя праблемы, але і ставіць іх перад уладамі.

**Марат ГАРАВЫ**

# Хворых на пранцы стала менш

У 2001 годзе па шэрагу паказчыкаў прыкметна палепшыўся стан здароўя насельніцтва Беларусі. Пра гэта 21 лютага на пашыраным паседжанні калегіі Міністэрства аховы здароўя паведаміў кіраўнік ведамства Уладзіслаў Астапенка.

Паводле яго словаў, па краіне дасягнуты найменшы за ўсе гады рэгістрацыі ўзровень мацярынскай і дзіцячай смяротнасці. Так, у 2001 годзе было зарэгістравана 11,9 выпадка мацярынскай смяротнасці на 100 тысяч парадзіх (2000 год – 24,2), а дзіцячая смяротнасць знізілася з 9,3 да 9,1 на тысячу нованароджаных. Адзначана таксама зніжэнне захворвання на такія інфекцыі, як коклюш, дыфтэрыя, краснуха, на 43,57%.

У 2001 годзе знізілася захворванне на венерычныя інфекцыі: у прыватнасці, колькасць хворых на пранцы скарацілася на 23,7% і склала 80,5 выпадкаў захворванняў на 100 тысяч насельніцтва (2000 год – 105,2). Лячэбна-прафілактычныя ўстановы летась выявілі на 4,9% менш хворых з устаноўленым упершыню дыягназам туберкулёзу, чым у папярэднім годзе, – 47,5 выпадкаў на 100 тысяч насельніцтва (2000 год – 49,9).

**Вольга АСІПЕНКА**

# За здольных дзяцей – большая аплата

Зараз у дзіцячых музычных школах Брэста развіваюць свае творчыя здольнасці больш як 13 000 хлапчукоў і дзяўчатак. Сярэдняя аплата за кожнага не перавышае 5 тысяч рублёў, што дазваляе чыноўнікам ад культуры прапаноўваць праекты па павелічэнні грашовай долі бацькоў у фінансаванні бюджэтных установаў. На іх думку, адукацыя павінна ажыццяўляцца на двух узроўнях – пачатковым і прафесійным. Гэта значыць, што ў першы клас набіраюць усіх ахвотных, затое ў другім і трэцім праводзяць масавы адсеў. За навучанне здольных дзяцей у старэйшых класах бацькам давядзецца плаціць як за рэпетытарства.

**Надзея СВЯТЛІЧНАЯ**

# Беспрацоўе вядзе да прастытуцыі

За паўтара месяца 2002 году выяўлена 29 злачынстваў, звязаных з вярбоўкай жанчын з мэтай іх сексуальнай эксплуатацыі, прыпынена дзейнасць адпаведных злачынных груповак у Гомелі і Гродне. Пра гэта паведаміў 21 лютага на «круглым стале» ў Мінску начальнік упраўлення па норавах і барацьбе з незаконным абаротам наркотыкаў Міністэрства ўнутраных справаў Беларусі Аляксандр Салдаценка.

Паводле яго словаў, пацярпелыя не заўсёды звяртаюцца ў міліцыю, таму супрацоўнікам упраўлення «даводзіцца самім шукаць інфармацыю і займацца раскрыццём злачынстваў». Акрамя таго, А.Салдаценка зазначыў, што ў 2001 годзе ў Маскве затрымалі 708 беларусак, якія займаюцца прастытуцыяй. З Германіі, Аўстрыі, Нідэрландаў, Польшчы, Балгарыі, Турцыі і іншых краін дэпартавалі 118 беларускіх жанчын. Гэтыя жанчыны, адзначыў прадстаўнік МУС, уяўляюць сабой своеасаблівую групу рызыкі як аб'екты замаху з боку злачынцаў.

А.Салдаценка расказаў, што ў канцы студзеня – пачатку лютага ўпраўленне правяло аперацыю, у выніку якой складзены 353 адміністрацыйныя пратаколы аб занятку прастытуцыяй. Для параўнання: за ўвесь 2001 год было складзена 705 пратаколаў, што, паводле словаў Салдаценкі, сведчыць аб латэнтнасці гэтага віду злачынства.

Начальнік упраўлення падкрэсліў, што такая сітуацыя склалася па шэрагу прычын, адна з якіх – недастатковае забеспячэнне жанчын працаю.

**Маша ПЯТРОВА**

# Вадналыжны трэнер загінуў ад «МАЗ»у

21 лютага ў аўтамабільнай катастрофе загінуў вядомы беларускі вадналыжны трэнер Мікалай Генаў.

Трагедыя здарылася каля 11 гадзін раніцы на трасе Полацк–Мінск, якраз насупраць полацкага аўтапарка. Грузавік «МАЗ» рухаўся ў бок Мінску. На пешаходным пераходзе стаяла жанчына, якая галасавала, спрабуючы спыніць спадарожную машыну. Кіроўца «МАЗ»у пачаў тармазіць, але не справіўся з кіраваннем, і яго грузавік вынесла на сустрэчную паласу. Там у гэты момант рухаўся «Нісан-Сані», на пярэднім сядзенні якога ехаў Мікалай Генаў. «МАЗ» літаральна наехаў на легкавы аўтамабіль, пamяўшы яго бакавую частку. Вядомы трэнер сканаў на месцы. Кіроўца «Нісана» з адкрытым пераломам галёнкі і шматлікімі ўдарамі дастаўлены ў траўматалагічнае аддзяленне Наваполацкай гарадской бальніцы. Па некаторых звестках, урачы ацэньваюць ягоны стан як здавальняючы. Паводле слоў супрацоўнікаў Полацкага аддзелу ДАІ, канчатковую ацэнку здарэння рабіць пакуль рана. Яшчэ не атрымана заключэнне тэхнічнай экспертызы.

М.Генаў быў пачынальнікам вадналыжнага спорту ў Наваполацку, ён стварыў школу, якая мае сёння сусветную вядомасць. Шмат у чым дзякуючы выступленням яго выхаванцаў Наваполацк замацаваўся на спартыўнай арэне планеты. Так, толькі ў мінулым сезоне 10 выхаванцаў наваполацкага вадналыжнага клубу імя Гагарына прывезлі медалі з чэмпіянату Еўропы ў розных узроставых катэгорыях, прычым 8 з іх сталі чэмпіёнамі кантыненту.

Грамадзянская паніхіда па Мікалаю Генаву пачнецца 25 лютага ў 10 гадзін у памяшканні вадналыжнага клубу імя Гагарына ў Наваполацку.

**Андрэй АЛЯКСАНДРАЎ**






Фота IREX/ProMedia

Галоўны «мабільнік» Мінску

# Каралеўскі горад з савецкім танкам

## Гутарка з гродзенскім скульптарам Уладзімірам Панцялеевым – сябрам Акадэміі выяўленчага мастацтва

***— Валодзя, як жывецца скульптару на адлегласці ад сталіцы, дзе болей выставачных заляў, дзе мастацкае жыццё больш насычанае?***

— Страшней для рэжысёра апынуцца ў правінцыі, дзе тэатр слабы. І калі няма трупы, няма з кім працаваць, вось гэта ўжо бяда. А для скульптара, для мастака розніцы няма, дзе жыць. Я, наадварот, лічу і сваім сябрам у Мінску кажу, што мне працаваць лепей тут. Тут духоўны цэнтр. Мінск – сталіца, дзелавы цэнтр, але душы ў гэтым горадзе няма. Гэта мне хочацца ў іх спытаць: як яны там працуюць? Дзе сталінскія праспекты і нават Траецкае прадмесце – штучны квартал.

***— Гродна, вядома, чаруе не да канца знішчанай архітэктурай, сваім гістарычным духам. А вось помнікаў амаль няма ў горадзе. Велізарны Ленін і зялёны танк супярэчаць абліччу Старога гораду. За апошні час у іншых гарадах з'явіліся помнікі гістарычным асобам. Прычым падбалі пра іх менавіта мясцовыя ўлады. У нас начальства помнікі не цікавяць. Чаму так?***

— Не так шмат і ў іншых месцах новых помнікаў. Паставілі помнік Ефрасінні Полацкай у Полацку. Прычым няўдалы. Пятру Мсціслаўцу – у Мсціславе. Ёсць, напэўна, нейкі момант палітычны. Бо Мсціслаўцу ўжо стаяў там помнік работы Маліноўскага, адліты ў бронзе. Можа, ён не такі пампезны быў. Але для райцэнтра яго было дастаткова.

Мне самому хочацца задаць такое пытанне: чаму? Ёсць рашэнне, прынятае Міністэрствам культуры, аб двух помніках для Гродна – Каліноўскаму і Багдановічу... А Скарына? Даўно злеплены і адліты. Яму ўсё не могуць знайсці месца ў Мінску. Таксама пытанне. Ці праспект хочуць перайменаваць назад? Нават гатовы помнік не патрэбны. Зноў-такі, з Багдановічам і Каліноўскім усё ціха. Але раптам вырашылі хуценька паставіць помнік памежнікам у нашым горадзе. І праз год ён будзе.

***— Заманулася камандуючаму памежных войскаў. Але летась так і не паставілі. Мабыць, грошай не хапіла.***

— Я думаю, што грошы, можа, нават дадуць расейскія памежнікі... Калі ён будзе на могілках вайсковых стаяць, дык нікому не перашкодзіць. Там для яго нармальнае месца. Калі толькі не вырашаць яшчэ змяніць яго.

***— Трэба адзначыць, што ў Гродне адно з'явілася бюст Міцкевіча. Але ўлады дачынення да яго не мелі. Саюз палякаў усё зрабіў.***

— Добры помнік атрымаўся. Міцкевіч вельмі адухоўлены.

***— Адзінае што, як кажуць, прапорцыі не зусім датрыманы.***

— Звычайна, калі бюст робяць, дык сам пастамент павінен быць сувымерны галаве. Так, каб ты мог глянуць на яе і прыблізна ўявіць яго рост. А з гэтым пастаментам, магчыма, такая сітуацыя ў нас і ёсць. Крыху не хапае, мабыць, аб'ёму.

***— Я чытаў дакументы, у якіх была ўказана вышыня пастамента. А на адкрыцці нават візуальна я пераканаўся, што пастамент зрабілі ніжэйшы. Тым не менш Саюз палякаў захацеў, дамовіўся з польскім бокам, зрабілі яго бясплатна. І, здаецца, не такія вялікія грошы ён каштаваў... А ці былі ў цябе кантакты з нашымі ўладамі наконт помнікаў у горадзе, дошак мемарыяльных?***

— У свой час мне заказалі дзве працы – мемарыяльную дошку Каліноўскаму па вул.Савецкай і дошку яго паўстанцам на чыгуначным вакзале. Пачаў я другую з іх рабіць пры адной уладзе, а адкрываў пры другой. Ніхто з уладаў не наважыўся нават падысці да дошкі, сталі ў натоўпе. А вось з дошкай на Савецкай вуліцы... Нават Пашкевіч, былы старшыня гарвыканкаму, прыходзіў да мяне ў майстэрню і не адзін раз быў. Я паказваў гэтую дошку. Разглядаў з цікавасцю, але адказу я так і не пачуў. Потым я сам цікавіўся ў аддзеле культуры, вынік – той жа, ніякі. Я зразумеў, што з іх лепей нічога не рабіць, чым штосьці зрабіць, што можа выклікаць незадавальненне зверху.

***— Каліноўскі ім не патрэбны. Гэта для іх не герой.***

— Я цяпер займаюся мемарыяльнай дошкай Яна Булгака, гэта быў выдатны фотамайстра. Дошка будзе ўсталявана на яго радзіме ў вёсцы Асташын Навагрудскага раёну. Спачатку была прапанова зрабіць тэкст двухмоўны, польска-беларускі. Але навагрудцы вырашылі: раз ён наш, дык зробім на беларускай мове толькі і самі прафінансуем. Палякі ж не робяць у сябе ў Польшчы, каб і на беларускай мове нешта было.

***— А калі ўзяць Гродна, якія ў горадзе помнікі магчыма паставіць, апроч ужо ўзгаданых? Тваё асабістае бачанне?***

— Па-першае, я хачу сказаць, што ў нашым горадзе знайсці месца для помніка вельмі цяжка. Асабліва ў цэнтры. А для Багдановіча ёсць добрае месца пры ўваходзе ў стары парк Жылібера з боку вул. Дзяржынскага. Сцежку ад помніка можна зрабіць да ягонага музея. Але я, улічваючы, што горад стаў фестывальным, пайшоў бы па шляху невялікіх паркавых рэчаў. Мы ездзілі ў нямецкі горад Міндэн, Брэмен аглядалі. Цікавая рэч: стаіць маленькая талерачка, дапусцім, а ўвёй бытцам п'юць ваду два верабейкі бронзавыя. Яна невялікая, але прыцягвае да сябе ўвагу. Вось для такіх рэчаў у нашым Старым горадзе магло б знайсціся месца. Я не прыхільнік пампезных помнікаў.

***— А вось Ленін наш надзвычай пампезны. Хаця ўсё адно хацелася б убачыць калі-небудзь у горадзе помнік конны Вітаўту ці Баторыю.***

— Але не на месцы Леніна. А, напрыклад, на падыходзе да двух каралеўскіх замкаў. Магла б стаць скульптура там.

***— А на замкавым двары – караля.***

— Так, гэта магчыма.

***— Усё ж сумна, прайшло столькі гадоў, а горад выглядае ў гэтым сэнсе безаблічна. І столькі творцаў жыве сваіх. Дзіўна нават: гэты танк стаіць, гэты Ленін.***

— Наконт танка не аднойчы думалі, каб яго прыбраць. Звярні ўвагу, я бываю ва ўсіх абласных гарадах. Здаецца, толькі ў нас застаўся танк у самым цэнтры. Магілёўскі вынеслі на Буйніцкае поле.

***— Тым больш і ў нас зрабілі ж музей бранятанкавы каля Кургана славы. Праўда, яшчэ і ў Мінску стаіць танк.***

— Але там не навідавоку. У нас жа паміж касцёлам і тэатрам... Я б сёння зрабіў анёла з мадэллю Фары Вітаўта на месцы, дзе гэты касцёл зруйнавалі. Гэта быў бы напамін, што тут стаяў храм, і нават – штуршок для збору сродкаў на аднаўленне. Хаця б на кансервацыю падмуркаў. Штосьці ж трэба рабіць.

***— Улады яшчэ ў 1991-м вырашылі: абавязкова крыж паставіць на месцы Фары Вітаўта...***

— Калі ўлады палохае крыж, можна зрабіць інакш. Я вось што ў Міндэне бачыў каля храма. Калі англічане бамбавалі Нямеччыну, у горадзе была разбурана кірха 12 стагоддзя. Яна аднаўлена. А побач на гранітным пастаменце яе мадэль, як яна выглядала да вайны. І ў нас так можна зрабіць, і нікому б яна не перашкодзіла.

***— Улады зрабілі фестываль нацыянальных культур у Гродне, з кожным годам усё больш людзей запрашаюць. Патрэбны новыя помнікі, малая скульптура, каб прывабіць турыстаў. Але ў цэнтры нічога не робіцца. Па сутнасці, адзіным помнікам застаецца Хрыстос каля касцёла. А што змянілася ў суседніх Беластоку і Друскеніках, ці бываеш ты там?***

— Мне нават параўноўваць цяжка. Хоць для мяне цікавейшыя Друскенікі. Я там калісьці працаваў, яшчэ студэнтам. Тады яшчэ звярнуў увагу, як яны ставілі на алеі керамічную скульптуру. Галоўны архітэктар гораду мне расказваў, што скульптуру яны ставяць недзе і глядзяць, ці падабаецца людзям, ці на сваім яна месцы стаіць. Часам па тры-чатыры разы мянялі месца, каб выбраць найлепшае.

***— Конныя статуі. Наколькі яны дарагія? Такі манумент мог бы быць і ў Лідзе – перад замкам, і ў Навагрудку, і ў нас. У нашай краіне дагэтуль няма ніводнага.***

— Каб такі сур'ёзны манумент паставіць, патрэбна жаданне знізу даверху. Бронза ёсць бронза. Яна каштуе грошай. Нават не столькі сам метал, а работа – лепка, фармоўка, ліццё. Цяжкі тэхналагічны працэс. Уяві, што такое накідаць гліну на 8-метровую фігуру. Трэба ведаць, якой таўшчыні трэба зрабіць, як каркас падрыхтаваць. Гэта не скульптар робіць, ён толькі кіруе працэсам. Вялікая праца з гранітам таксама, калі гаворка аб помніку. Распілоўка, паліроўка блокаў – вельмі дарагая праца, яна павялічвае кошты ўдвая.

***— Літоўцы захацелі паставіць у Вільні і зрабілі. Хоць краіна меншая, конную статую агоралі.***

— У нас іншая краіна. У нас абвешчаны конкурс на помнікі Машэраву і памежнікам...

***— У Слоніме будуць адзначаць 750-я ўгодкі гораду. Я чуў, што, магчыма, з'явіцца помнік Льву Сапегу. Да цябе ўлады не звярталіся слонімскія?***

— У мяне ёсць эскіз памятнага каменя ў гонар гораду. Не ведаю, ці захочуць яго паставіць... Удаецца ставіць іншыя рэчы. Я пайшоў па шляху вясковага помніка-капліцы. Каб не загрувашчваць нашы вёскі бетонам. Апошнюю, 6-метровую такую капліцу я паставіў у Вялікай Волі, у Дзятлаўскім раёне, на беразе Шчары. Там падчас вайны немцы спалілі вёску, а жыхароў – 365 чалавек – расстралялі. Я такіх вялікіх паставіў 6 работ. Не патрэбны бронза і бетон у вёсцы. Болей арганічна выглядаюць помнікі з дрэва.

***— Тым болей – бронза даражэйшая, і, мабыць, пакуль небяспечна ўсталёўваць бронзавыя рэчы?***

— Бронзавы бум, я думаю, ужо скончыўся. На мяжы навялі парадак. У пунктах прыёму таксама. Дый каштуе яна ўжо не так дорага. У гатовай рабоце кілаграм бронзы даляраў пяць каштуе. А сама па сабе яна таннейшая.

***— У Гродне «Пагоня на Грунвальд» пацярпела. Мемарыяльная дошка А.Дранца каля Каложы.***

— Сёння гэта не адбылося б, мабыць. Калі толькі не было палітычнага моманту у тым, што яе знішчылі.

***— Праца скульптара дае адначасова і заробак, і задавальненне?***

— Я сваімі работамі зарабляю на хлеб. Але і творчы раблю, удзельнічаю ў выставах. Асабліва пасля таго, як мяне прынялі ў Беларускую акадэмію выяўленчага мастацтва. Апошняя праца была прысвечана Фердынанду Рушчыцу. У Мінску паказвалі, вазілі затым у Гальшаны, а цяпер яна ў Валожыне, на яго радзіме. А ў сакавіку пакажам яе ў Гродне.

Ад заказаў я часам нават адмаўляюся. Калі праца датычыць чалавека, мяне перш цікавіць – што ён сабою ў жыцці ўяўляў? Калі гэта быў савецкі партыйны работнік, я за гэта не вазьмуся. Мне цікавейшыя іншыя асобы. Вось мы падрыхтавалі памятную дошку прадстаўніку ордэна марыянаў, замучанаму ў сталінскіх лагерах. Мы выкладзем бутавыя камяні, дошку замацуем і крыж. Хлопцы мне бясплатна адлілі яго выяву. Пад старую бронзу.

***— Што дапамагае табе працаваць творча?***

— Рыбалка. Часта адзін выязджаю, каб ніхто не перашкаджаў, каб можна было пасядзець падумаць. На прыродзе гэта лепш атрымліваецца. Самую вялікую рыбіну сваю злавіў у нашым Парэччы – на 29,4 кг, таўсталобіка.

***— А з Нёмана ці можна рыбу есці? Раней лічылася, што столькі хімікатаў у вадзе.***

— Канечне, можна. Нёман чыстая рака сёння, калі судак, сом вядуцца. Рыбы шмат. Я хаджу на пляж лавіць. Да 16-ці працую, бяру спінінг і на Нёман, а потым назад вяртаюся працаваць. Хтосьці гуляе ў горадзе, а я на раку хаджу. Я чэрпаю сілы ад кантактаў з прыродай.

***— А музыка дапамагае?***

— Я болей слухаю класіку. Чайкоўскага люблю. І ў машыне, дарэчы, слухаю. Цяжкі рок – не. Люблю душэўныя, спакойныя рэчы, каб настроіцца на работу можна было. Цяжкая музыка – гэта як шмат кавы.

***— Ці ёсць твае працы за мяжою?***

— Найбольш прац у Нямеччыне, у калекцыях. Работа ў Львове стаіць. Белая мадонна. У Цярнопалі. У Амстэрдаме. Бронзавая. Гады чатыры таму паставілі. Каля банку. Невялікая. На пастаменце гранітным. Адпраўляў не багажом, а ўбачыў на месцы толькі праз два гады. Мае работы ёсць практычна ва ўсіх беларускіх музеях. Пачынаючы ад Нацыянальнага.

***— Я бачу ў цябе «егіпецкія» работы, зробленыя табою. Што прываблівае цябе ў егіпецкай скульптуры?***

— Таямніца ў мастацтве. Для любога мастака тэма Егіпта – таямніца. У мяне мінуў час цікавасці да старажытнай Грэцыі. Егіпецкае мастацтва для мяне вышэйшае. На апошняй выставе я паказаў свае егіпецкія работы. Для мяне яно ў смузе загадкі і таямніцы.

***— У Піцеры стаяць сапраўдныя сфінксы. А ў нас? Хіба што – стылізаваныя на браме Новага замка. Можа, нешта яшчэ было калісьці ў палацах. Але сёння, па-мойму, болей напаміну няма.***

— У Пецярбургу сфінксы сталі неад'емнай часткай. Я не ўяўляю набярэжнае без іх. Але я не стаў бы звязваць сфінксаў з Беларуссю. Мне болей падабаюцца львы народнай мастачкі Алены Кіш са Случчыны.

***— А вось Якубу Коласу ў сталіцы вельмі масіўны помнік. Ці нельга параўнаць яго з мудрым загадкавым сфінксам? Сам Колас якраз і быў такім чалавекам.***

— Гэта была памылка Азгура. Ён добра ведаў пры жыцці Коласа. І паставіў пасля яго смерці вялізны 10-метровы помнік. Не памятаю, як жа гэта ён называецца. Кожны помнік мае назву, калі няўдалы. У Магілёве ёсць – «Тая, што бяжыць з «Лаўсана». Жанчына, за плячыма якой коміны заводскія... Я прыхільнік камерных рэчаў. Хаця вось Янка Купала добра пастаўлены.

***— Скульптару, як і пісьменніку, дый любому іншаму творцы, патрэбны новыя гарады, новыя ўражанні...***

— У траўні ў мяне будзе выстава ў Рыме, непадалёк ад Ватыкану. Я сёння ў прадчуванні, што змагу ўбачыць працы Мікельанджэла, усіх вялікіх майстроў. Самае цяжкае пытанне, што паказаць сваё. Я не думаю, што здзіўлю італьянцаў. Мармур туды везці папросту смешна. Ліццё таксама. Думаю, што ім будуць цікавыя мае працы з дрэва. Напэўна, там гэтым асабліва не займаюцца. Павязу свае такія сярэднявечныя працы. Яны створаны як для куткоў старога гораду.

***— Я бачу, такія твае працы маглі б быць і на падворку нашага Старога замка.***

— У іх выкарыстаны старыя ключы, цвікі, замкі. Я часам знаходжу і ўстаўляю іх у драўляныя працы. Другое жыццё даю. Горад наш багаты. Можна было б не сядзець па майстэрнях, а працаваць на яго. Я гораду падараваў камень са змяёю. Камень ляжаў тут на вуліцы. Цяпер каля галерэі Тызенгаўза, якая ля Крывой афіцыны. На сонцы грэецца вужака. Вось такая праца. Галандскі газончык зрабілі. Такі атрымаўся пачатак.

***— Застаецца пажадаць, каб ва ўладаў найперш хаця б з'явілася жаданне прымаць такія падарункі, якія аздабляюць горад. А таксама каб яны пачалі замаўляць і малую скульптуру, і помнікі.***

Гутарыў
**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

# Багатае заўтра

## *Радовішчы нафты і газу, пры разумным кіраўніцтве, абяцаюць Казахстану дабрабыт*

*Грошы плывуць ракою – 10 мільярдаў даляраў замежных інвестыцыяў на працягу дзесяці гадоў, з таго часу, як Казахстан стаў незалежнай дзяржаваю, і амаль пяць мільярдаў ад продажу нафты ў 2000 годзе.*



Найбольшы з пяці даўніх савецкіх «-станаў» (у пяць разоў большы за Францыю!), Казахстан, бадай што, і самы заможны. Савецкі Саюз амаль не разведаў казахскіх запасаў нафты, а сёння яны, як выглядае, няспынна растуць. Даследаванае нядаўна нафтавае поле на Каспійскім моры павялічыла ацэнку разведаных запасаў гэтай краіны да 17,6 мільярда барэляў. Гэта не нашмат менш за 22 мільярды барэляў, якія складаюць супольныя рэзервы ЗША.

Да міжнародных фірмаў, якія пнуцца ў Казахстан з грашыма на інвестыцыі, прылучылася нават кітайская дзяржаўная нафтавая карпарацыя. Нафта ўжо сёння ідзе на Захад трубаправодамі праз Расію; будаўніцтва іх працягваецца. Калі транспартная сістэма будзе гатова, праз яе пойдзе і газ.

Звычайны казах бачыць няшмат з таго багацця. Што праўда, тут больш працоўных месцаў; тысячы работнікаў будавалі пасярод бясплоднага стэпу новую сталіцу, Астану. Яна замяніла Алма-Ату, колішнюю крэпасць расійскіх казакаў. Аднак крытыкі кажуць пра ўзнікненне «анклаўнае гаспадаркі», у якой грошы плывуць у нафтава-газавую прамысловасць або прыносяць карысці чыноўнікам і паплечнікам прэзідэнта Нурсултана Назарбаева. Паказчык беспрацоўя ў краіне складае 14%, але ў гарадах, аддаленых ад нафтавых палёў, дасягае 50%.

Мабыць, непазбежна – бо карупцыя ў «-станах» паўсюдная – было тое, што мільёны даляраў, якія ў 1997 годзе ўнеслі амерыканскія фірмы, прагнучы атрымаць нафтавыя канцэсіі, аселі ў швейцарскіх банках на рахунках, падкантрольных – як цвердзяць тыя, хто расследаваў справу, – казахскім чыноўнікам, у тым ліку Назарбаеву. На Захадзе выбухнуў бы скандал, а ў казахскім друку з'явілася толькі дробная згадка. Звесткі, якія тычацца асабістых справаў прэзідэнта, паводле закону, засакрэчаныя. Выданні, якія асмельваліся крытыкаваць яго за іншыя справы, чакалі суды і канфіскацыі абсталявання друкарняў.

Назарбаеў быў апошнім кіраўніком Камуністычнай партыі Казахстану перад распадам СССР і, стаўшы кіраўніком новай дзяржавы, лёгка выйграў новыя выбары ў 1999 годзе. Крытыкі прызналі іх несумленнымі – бо, напрыклад, суд не дапусціў да прэзідэнцкай гонкі наймацнейшага праціўніка Назарбаева. Прэзідэнт кантралюе парламент і судовую сістэму – гэта старая савецкая школа – але, нягледзячы на гэта, рэжым тут менш рэпрэсіўны, чым у суседніх Узбекістане і Туркменістане.

Казахі – самая русіфікаваная з этнічных групаў Сярэдняй Азіі. Расія пачала займаць іх тэрыторыі ад пачатку XVIII ст.; іншыя сярэднеазіяцкія народы не сутыкаліся з расіянамі яшчэ сто гадоў. Сяляне пачалі прыбываць у тутэйшыя стэпы ў пошуку зямлі ў канцы XIX ст. У 30-х і 40-х гг. XX ст. цягнікі прывозілі сюды тысячы людзей, якім Сталін не меў веры, такіх, як паволжскія немцы, карэйцы з савецкага Далёкага Усходу або палякі з Украіны. Яшчэ адна хваля асаднікаў прыбыла ў 50-я гады, каб заараць цаліну – гэта была безнадзейная спроба гадоўлі пшаніцы ўва ўмовах паўпустыні.

Як і ў іншых рэспубліках, Саветы палілі казахскія кнігі, забівалі лідэраў або высылалі іх у ГУЛАГ, калектывізавалі сельскую гаспадарку. Не дзіва, што багата казахаў страцілі кантакт са сваёй культурай і цяпер лепш гавораць па-расійску, чым на сваёй роднай мове, якая адносіцца да цюркскіх.

А радовішчы нафты і газу прыносяць новую культуру – культуру багацця.

**National Geographic**

**Насельніцтва**
14,8 млн.

**Сталіца**
Астана (да 1997 г. Алма-Ата)

**Мовы**
расійская 60%
казахская 40%

**Нацыянальныя групы**
казахі 53%
расійцы 30%
украінцы 4%
іншыя 13%

**Рэлігіі**
іслам 47%
праваслаўе 44%
іншыя 9%

**Сярэдняя працягласць жыцця**
63,3 года

**Дзіцячая смяротнасць**
59 на 1 000 народзін

**Плошча**
2 717 300 кв. км

# Год кабзара ў Беларусі

Беларускія ўлады афіцыйна падтрымалі ініцыятыву пасольства Украіны і Беларускага саюзу ўкраінскіх грамадскіх аб'яднанняў абвесціць 2002 год у нашай краіне годам самага вядомага ўкраінскага паэта Тараса Шаўчэнкі. Са словаў прэс-сакратара Міністэрства замежных справаў Паўла Латушкі, сёлета з гэтай нагоды мяркуецца правесці шэраг літаратурных чытанняў, мастацкіх выставаў, навукова-практычных канферэнцыяў, фестываль украінскага кіно.

Апрача таго, хуткім часам у Брэсце ўсталююць бюст кабзара, а ў Мінску афіцыйна адкрыюць ужо ўзведзены ў скверы блізу будынку ўкраінскага пасольства помнік Шаўчэнку і шаўчэнкаўскую артэзіянскую крынічку. Дарэчы, помнік Тарасу Шаўчэнку ў беларускай сталіцы меўся ўрачыста адкрыцца яшчэ пры канцы лета 2001 году. Тады чакалі, што прыедзе ўкраінскі прэзідэнт Леанід Кучма, але той не схацеў наведваць нас напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў, бо гэта маглі патрактаваць як падтрымку Аляксандра Лукашэнкі.

Ува Украіне сёлета ў сваю чаргу будуць святкаваць 120-я ўгодкі нашых класікаў Якуба Коласа і Янкі Купалы. А ў Ялце плануецца ўзвесці помнік Максіму Багдановічу.

**Кірыла ПАЗЬНЯК**

# Палова японцаў маюць сотавікі

Мабільнымі тэлефонамі ў Японіі карыстаюцца цяпер 57,5% насельніцтва краіны, улучна са старымі і дзецьмі. Колькасць уладальнікаў мабільных, згодна з афіцыйнымі дадзенымі, складае 73,2 млн. чалавек. 67,5 млн. жыхароў краіны аддаюць перавагу сотавым тэлефонам. 5,7 млн. чалавек карыстаюцца больш таннымі і простымі партатыўнымі тэлефонамі сістэмы *PHS*, якія нагадваюць вынасныя слухаўкі, што працуюць з дапамогай усталяваных паўсюдна рэтранслятараў.

Амаль 50 млн. японцаў дзякуючы мабільнікам маюць магчымасць практычна ў любы момант папрацаваць у інтэрнэце. Тэлефоны падказваюць сваім гаспадарам іх месцазнаходжанне, дапамагаюць выбраць аптымальны маршрут руху да пэўнага пункту, маюць процьму іншых карысных функцыяў. Іх апошнія мадыфікацыі могуць таксама перадаваць відэавыяву і перасылаць вялікія аб'ёмы інфармацыі. Жорсткая канкурэнцыя прымушае ўладальнікаў сетак мабільных тэлефонаў увесь час іх удасканальваць, аптымізаваць ці зніжаць абаненцкую плату.

**Анатоль КРАСНОЎ**

# Прэзідэнцкія выбары як сімвал

Да заканчэння прэзідэнцкага мандату Вацлава Гавала застаецца ўжо менш за год, і пытанне, хто будзе яго пераемнікам, усё мацнее. Гэта пытанне не аб тым, куды пойдзе далей Чэшская рэспубліка, аднак змена прэзідэнта мае вялікі сімвалічны сэнс.

З сыходам прэзідэнта Гавала сімвалічна і рашуча скончаецца фаза трансфармацыі чэшскага грамадства, якая характарызавалася асноўнымі сістэмнымі зменамі. Яны ў большасці ўжо адбыліся, і цяпер Чэшскую рэспубліку чакае іспыт на гатоўнасць да інтэграцыі ў еўрапейскія структуры.

Роля прэзідэнта ў чэшскім грамадстве традыцыйна разумеецца адмыслова. І ў часы таталітарызму камуніст, якога родная партыя прызначала на гэтую пасаду, атрымліваў большую вагу за астатніх таварышаў.

Лепей было прэзідэнтам, абраным у часы абмежаванай дэмакратыі. Гаха – прэзідэнт Пратэктарату Чэхіі і Маравіі (за немцамі) – і прадстаўнік Нацыянальнага фронту Бенеш пасля вайны таксама не далі пад уплывам гістарычных варункаў узораў прэзідэнцкай чыннасці.

У чэшскай гісторыі знайшліся толькі двое, за якіх не трэба саромецца: заснавальнік сучаснай чэшскай дзяржаўнасці Томаш Масарык і першая асоба супраціву камуністычнаму таталітарызму Вацлаў Гавал. Гэта няшмат, і будучая змена стане для чэшскага грамадства не толькі псіхалагічным іспытам.

Усё кажа за тое, што прэзідэнт, якога абяруць неўзабаве, будзе шмат у чым адрознівацца ад Вацлава Гавала. Ён не прыйдзе на пасаду пад уплывам нейкіх гістарычных зменаў, а будзе хутчэй звязаны з нейкай канкрэтнай палітычнай партыяй. Вацлаў Гавал таксама не заўсёды быў надпартыйны, але свае палітычныя сімпатыі заваёўваў паступова і не дазваляў ім авалодаць сабою.



Зараз з упэўненасцю можна сказаць, што пасада прэзідэнта стане аб'ектам палітычных саступак і перамоваў. У гэтым няма нічога кепскага, на тое палітыка, але ў выпадку прэзідэнцкай пасады да такіх рэчаў трэба падыходзіць з асаблівай увагай. Вельмі праўдападобна, што ў выпадку поспеху традыцыйнай пары – Грамадзянска-дэмакратычнай партыі (*ODS*) і Чэшскай сацыял-дэмакратычнай партыі (*CSSD*), да чаго ўсё і ідзе пасля распаду кааліцыі чатырох, – пасаду прэзідэнта зойме адзін са старшынь гэтых партыяў: Вацлаў Клаус ці Мілаш Зэман. Гэта было б лагічна, але не адпавядала б традыцыі чэшскага інстытуту прэзідэнцтва. Рэч не толькі ў тым, што абодва – жалезныя партыйцы; перадусім яны не асобы кансэнсусу, яны не аб'ядноўваюць чэшскае грамадства, а дзеляць яго даволі хваравітым чынам.

Добра глядзіцца на гэтым месцы беспартыйны, былы міністр юстыцыі, а цяпер грамадскі абаронца праваў чалавека Отакар Мотэйл.

Зразумела, для сённяшніх чэхаў гэта не такое ўжо важнае пытанне – хто стане прэзідэнтам. Хто б ні быў, ён стане сімвалам новага этапу развіцця Чэшскай рэспублікі. А сімвалы – рэч неабыякай важнасці.

**Радка КУБІЧКА**
**Чэшскае радыё 6 / Радыё Свабодная Еўропа**

# Літва ўсё бліжэй да *NATO*

*Наша паўночная суседка разлічвае ў хуткім часе ўвайсці ў склад Паўночнаатлантычнага альянсу. Невялікая еўрапейская краіна бачыць у ваенным аб'яднанні надзейныя гарантыі сваёй незалежнасці і бяспекі.*



У чацвер Вільнюс наведаў генеральны сакратар *NATO* лорд Джордж Робертсан. Гэта быў ягоны трэці візіт у краіну.

Прэзідэнт Літвы Валдас Адамкус прыняў Джорджа Робертсана ў сваёй рэзідэнцыі. Галоўныя пытанні, якія абмяркоўваліся двума лідэрамі, – гэта гатоўнасць краіны да ўваходжання ў *NATO*, стасункі з суседнімі краінамі, а таксама сумесны ўдзел у міжнародных міратворчых аперацыях.

Як перадае прэзідэнцкая прэс-служба, В.Адамкус паведаміў, што Літва ўжо дасягнула патрэбнага ўзроўню падрыхтаванасці да ўваходжання ў Паўночнаатлантычны альянс і адпавядае ўсім ягоным патрабаванням. Ён нагадаў, што літоўскія вайскоўцы бралі ўдзел у натаўскіх місіях у Босніі і Косаве і гатовыя да ўдзелу ў іншых міжнародных аперацыях.

Са свайго боку лорд Джордж Робертсан паведаміў, што прыехаў «падбадзёрыць» Літву ў яе намаганнях. Ён адзначыў, што на гэтым шляху краіне ўжо ўдалося шмат зрабіць, аднак яшчэ большая частка працы – наперадзе.

Нагадаем, што Літва спадзяецца ўжо сёлета ўвайсці ў склад Паўночнаатлантычнага альянсу – на лістападаўскім саміце гэтай арганізацыі, які пройдзе ў сталіцы Чэхіі Празе. Сёлета ж мусяць скончыцца перамовы аб далучэнні да Еўрапейскага Саюзу, якое плануецца на 2004 год.

Даволі нечаканую падтрымку сваім памкненням наша паўночная суседка атрымала з Вашынгтону. Падчас сустрэчы літоўскага і амерыканскага прэзідэнтаў 17 студзеня гэтага году Джордж Буш заявіў: «Калі і ёсць фаварыты сярод кандыдатаў на ўваходжанне ў склад *NATO*, дык гэта Літва». Пасля гэтага ягоны літоўскі калега адзначыў: «Калі ў мяне раней і былі нейкія сумневы, то цяпер іх няма». Ён быў вельмі задаволены такой ацэнкай шматгадовых літоўскіх намаганняў.

Тым часам, Міністэрства замежных справаў Літвы паведамляе, што ўсё больш літоўцаў пазітыўна ставяцца да ўваходжання іхняй краіны ў Паўночнаатлантычны альянс. У час з 7 па 10 лютага цэнтр даследаванняў грамадскай думкі «*Vilmorus*» правёў адмысловае апытанне на замову літоўскага МЗСу. Высветлілася, што калі б гэтымі днямі ў Літве праходзіў рэферэндум па ўваходжанні ў склад *NATO*, то 58,9% літоўскіх грамадзянаў прагаласавалі б «за» далучэнне да альянсу, 21,1% – супраць, а кожны пяты жыхар краіны ўстрымаўся б ад удзелу. Цэнтр «*Vilmorus*» апытаў агулам 1 056 грамадзянаў у 18 гарадах і 56 паселішчах Літвы.

Такім чынам, як бы ні працівіліся гэтаму афіцыйныя Масква і Мінск, але ўсё болей суседніх з намі краінаў жадаюць абараніць сябе ад магчымых непрыемнасцяў пры дапамозе эфектыўнай вайсковай падтрымкі з боку Паўночнаатлантычнага альянсу. Як вядома, Польшчы гэта ўжо ўдалося, а Літва і Латвія чакаюць, што іх вось-вось прымуць. Можна было б паскардзіцца, што «тры славянскія краіны» – Беларусь, Расія і Украіна – мусяць цяпер утраіх процістаяць гіпатэтычнаму ворагу з Захаду... калі б не апошнія навіны з Кіеву.

Як перадаюць украінскія сродкі масавай інфармацыі, Міністэрства абароны гэтай краіны прапанавала ўраду падаць заяўку на далучэнне да *NATO*. Гэтая прапанова цяпер разглядаецца Саветам нацыянальнай бяспекі і прэзідэнцкай адміністрацыі. Паводле агенцтва *Defence Express*, адпаведнае рашэнне могуць прыняць ужо ў сакавіку. Як кажуць прадстаўнікі Міністэрства абароны, гэта прадэманструе сапраўднае жаданне Украіны інтэгравацца ў Еўропу.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

# Два ліха не спяць ціха

*Вельмі слушным атрымаўся ўкраінскі нумар часопісу «ARCHE», які пабачыў свет напрыканцы мінулага году.*

Як адзначаецца ў рэдакцыйнай прадмове да нумару, ён паўстаў перш за ўсё з практычнай патрэбы: даць беларусам прыклады таго, як можна пісаць, даследаваць, аналізаваць, мысліць у сітуацыі, набліжанай да беларускай. Па-другое, з жадання адкрыць для нашых людзей кірунак найноўшага ўкраінскага мыслення, самабытнасць украінскае літаратуры апошніх гадоў. Па-трэцяе, з ахвоты змяніць вобраз Украіны ў вачах беларускага чытача.

Можна сказаць, што мэты гэтыя ў асноўным дасягнуты. Бо, па-першае, нумар атрымаўся тоўсты, аж на пяць з паловай соцень старонак; па-другое, ён вельмі шматпланавы; па-трэцяе, адчуваецца, што ягоныя аўтары ўмеюць і любяць думаць і пісаць. Таму шмат з таго, што тычыцца ідэяў, палітычнай думкі, тэорыі нацыяналізму, будзе прыемным адкрыццём для беларускага чытача, падарункам для інтэлектуальнага гурмана. Ёсць і таленавітыя, высокамастацкія ўзоры прозы і паэзіі, што без перабольшання можна назваць духоўным адрывам ад правінцыйнасці, савецкасці і азіятчыны. Гэта відавочна пры параўнанні з тым, што за апошнія 10 гадоў зроблена ў Беларусі, дзе нават у пісьменніцкіх, увогуле ў інтэлектуальных асяродках да гэтай пары ўздыхаюць па савецкасці ды перапяваюць ленінізм-сталінізм у грамадазнаўстве. Дзе міністр адукацыі лічыць, што 3/4 падручнікаў па гуманітарных дысцыплінах (а па гісторыі Беларусі нават усе), напісаныя ў постсавецкі перыяд, патрабуюць поўнай перапрацоўкі. Дзе ўвогуле дыскутуецца тэма: ці мае Беларусь уласную гісторыю.

У масавай свядомасці беларусаў дзякуючы СМІ Украіна апошняга дзесяцігоддзя адбілася як краіна з цалкам разбуранай эканомікай. А ўкраінцы ацэньваюць Беларусь як краіну, у якой захаваліся сацыялістычныя стасункі ў эканоміцы, але затое працэс нацыянальна-культурнага вызвалення спыніўся на самым пачатку. У гэтым нешта ёсць ад праўды, але не ўся праўда. Бо сапраўды, як заўважае ў артыкуле «Параўнальныя асаблівасці ўкраінскага і беларускага аўтарытарызму, альбо Яшчэ раз пра славянскую традыцыю выбіраць з двух ліхаў меншае» Максім Стрыха, па паказчыках ВУП на душу насельніцтва Беларусь удвая апярэджвае Украіну. Сапраўды, Украіна мела ў 1991 годзе бліскучыя шанцы зрабіцца развітой і дэмакратычнай еўрапейскай краінай, але не скарыстала іх, ператварыўшыся «ў хранічна хворую краіну кантыненту, якую не вагаюцца паказаць у якасці пудзіла падчас узорна паказальных экзекуцыяў супраць тых, хто не прытрымліваецца еўрапейскіх стандартаў дэмакратыі і правоў чалавека».

Але ж не толькі эканомікай жывуць дзяржава і грамадства. Што да гэтага апошняга, як заўважае М.Стрых, 10 гадоў таму Украіна мела імунітэт супраць нацыянальнага самаедства. Бо ўзровень нацыянальнай свядомасці ніжэйшы, чым у краінах Балтыі, быў усё-ткі дастатковы, каб цалкам выключыць магчымасць інтэграцыйнага праекту накшталт маскоўска-мінскага.

А больш істотна тое, што Кіеў, найбольш уплывовы цэнтр, хоць і быў першы сярод роўных, але зусім не адзіны. Былі ж яшчэ Харкаў, Данецк, Днепрапятроўск, Адэса ды Львоў. Ужо адно гэта рабіла немагчымым усталяванне дыктатуры адной асобы, а змена фігураў ва ўладзе залежыць у многім менавіта ад кампрамісу паміж Кіевам і найбуйнейшымі ўплывовымі кланамі. Зразумела, што кампраміс дасягаецца не матывамі далейшага развіцця дзяржавы (бо курсу на незалежнасць ніхто не аспрэчвае), не коштам ідэалагічных спекуляцый на мове ды дзяржсімволіцы, а зусім канкрэтнымі камерцыйнымі інтарэсамі.

Сказаць, што сёння Украіна змагла адказаць на гэтыя патрабаванні, нельга. Але, як адзначае Стрых, украінскае грамадства, мусіць, ужо стала менш патэрналісцкім, чым беларускае. Людзі ўсё больш разлічваюць на ўласныя сілы. Гэта і ёсць тое, на жаль, адзінае, дасягненне ўкраінцаў у параўнанні з беларусамі. Але ўкраінец ужо прайшоў шляхам «шоку без тэрапіі», а ў беларуса ён наперадзе.

Зразумела, украінцы могуць суцяшацца тым, што беларусы жывуць значна горш. Але яны могуць суцешыцца і тым, што валодаюць амаль поўнай свабодай «у параўнанні з падданымі якога-небудзь Сапармурада Туркменбашы». Але ўсяму вольнаму свету ўласціва думка, што з двух ліхаў не трэба выбіраць ніводнага.

**Канстанцін СКУРАТОВІЧ**

# Бурныя стасункі Ван Гога з Гагенам – у Амстэрдаме

*Галандскі мастак Вінсент Ван Гог і французскі Поль Гаген перажылі ў канцы 1888 году ў Арлі на поўдні Францыі самыя бурныя стасункі за ўсю гісторыю мастацтва. Усяго дзевяць тыдняў яны абменьваліся палотнамі і ідэямі, працавалі без пярэдыху. Іх сувязь была такая інтэнсіўная, што Ван Гог, прадчуваючы расстанне, адрэзаў сабе вуха. Выстава «Ван Гог і Гаген, Майстэрня на Поўдні, 122 палотны», якая адкрылася ў Амстэрдаме, – спроба паказаць гэты шал праз творы мастацтва. У Чыкага, у Art Institute, дзе яна праходзіла дагэтуль, экспазіцыю наведалі каля 700 тысяч чалавек.*

Абодвум мастакам, каб пакінуць глыбокі след у творчасці адзін аднога, хапіла двух месяцаў напружанага і перарванага сужыцця. Усё пачыналася як найлепш, з узаемнага падарунку – двух аўтапартрэтаў, дзе абодва акрэслілі становішча, якое гатовы былі заняць у створаным імі таварыстве абнаўляльнікаў мастацтва. Ван Гог выявіў сябе будыйскім манахам, гатовым аддацца творчасці ў сваім маленькім арльскім раі. Галандзец быў памагатым пастара-метадыста і ставіўся да мастацтва з праўдзівай рэлігійнай адданасцю. У яго не было жадання ідэалізаваць рэчаіснасць, ён толькі спрабаваў паказаць яе разняволенаю. Яго першая амбітная праца, «Людзі, што ядуць бульбу», ужо ў 1885 годзе спалучала рэалізм з містыцызмам.



Партрэт Поля Гагена, напісаны Ван Гогам

Гаген такім не быў. Ён хацеў правесці нейкі час на поўдні Францыі з сваім адданым сябрам-мастаком, але ўсцяж шукаў свае месца пад сонцам. Арль, правінцыйнае мястэчка, быў толькі прыпынкам у пошуку адзіна прыгожага раю, які гэты чалавек знайшоў урэшце на краі свету – на Таіці. У сваім аўтапартрэце ён намаляваў сябе ў вобразе Жана Вальжана, персанажа Віктора Гюго. Ван Гог непрыемна здзівіўся, што яго кумір ператварыўся ў нейкае падабенства нявіннага дзікуна, без найменшай прыкметы аддачы іх супольнай мэце, але ягоны запал не прайшоў.



Карціна Ван Гога «Жонка караля»

Толькі з'явіўшыся ў Арлі ў лютым 1888 году, ён пачаў абменьвацца з Гагенам лістамі. Выдатны аўтар эпісталярнага жанру (як відаць на прыкладзе ягонага ліставання з братам Тэа), брабанцкі мастак расказаў сябру, што знайшоў выдатнае месца. Гаворка ішла пра «Жоўты дом»: дзве спальні, майстэрня і кухенька, што здавалася ў наём у будынку на плошчы Ламарціна. Надзея дала яму новыя сілы; у знак прыязні Ван Гог пісаў без упынку, аздабляючы сцэны. Невядома, ці ацаніў Гаген спробу дагадзіць яму, але кветкамі, што ўпрыгожылі пакоі, былі зіхоткія сланечнікі.

Выстава ў Амстэрдаме, як і ранейшая ў Чыкага, упершыню сабрала разам тры версіі гэтага нацюрморту. Адну з іх купіла ў 1987 годзе за 44,5 млн. еўра японская страхавая кампанія «Ясуда» (*Yasuda Fire and Marine Insurance Company*).

Наведанне амстэрдамскай экспазіцыі адразу пераконвае, што сустрэча двух мастакоў магла скончыцца толькі бітвай тытанаў. Ван Гог пісаў нязмушана, з такой энергіяй, якая ўрэшце раніла Гагена: яму патрабаваўся час для таго, каб прымусіць працаваць сваю фантазію, і ён не адчуваў патрэбы кожным мазком заглыбляцца ў сутнасць трагедыі чалавека. Захапленне, якое адчуваў да яго Ван Гог, нярэдка прымушала яго пераглядаць сваю тэхніку пісьма, шукаючы памылак. Не кажучы ўжо аб прадметах, якія рабіліся тэмамі карцін іх абодвух. «Начная кавярня» Ван Гога напісана інтэнсіўным чырвоным, падлога жаўтаватая, але нават так яна перадае тое дзіўнае адчуванне пусткі, якое было ў станцыйных кавярнях. Гаген таксама напісаў гэтую кавярню, і ягоны лёгкі пэндзаль ператварыў бясцелыя цені, якімі выглядаюць наведнікі на палатне ягонага сябра, у зямных персанажаў.

Нягледзячы на супольную працу і падагрэтыя абсентам спрэчкі пра карысць мастацтва, разнагалоссі паміж мастакамі зрабілі супольнае жыццё невыносным. Заканчэнне прыгожай ідыліі, поўнай напачатку надзеяў і творчых узлётаў, было афарбавана ў цёмныя, нават крывавыя тоны. У ноч, калі Ван Гог адрэзаў сабе вуха, стала зразумела, што Гаген больш не ўстане выносіць пакланенне гэтага летуценніка. Ён хацеў ісці сваёй дарогай, а напружаны маральны і мастацкі саюз з галандцам быў для яго занадта цяжкою ношай.

**El País, Іспанія**

# У Кітаі імкліва апустыньваюцца землі

Кітайскія эколагі паднялі трывогу: у краіне даволі хуткімі тэмпамі працягваецца апустыньванне, нягледзячы на масавыя мерапрыемствы па ахове навакольнага асяроддзя. Па падліках спецыялістаў, апошнімі гадамі гэтае бедства, выкліканае галоўным чынам кліматычнымі зменамі і чалавечай дзейнасцю, закранула агулам каля 2,7 млн. кв. км зямельных плошчаў, або 27,9% усёй тэрыторыі краіны.

Згодна з праведзеным нядаўна абследаваннем, гэтыя лічбы значна перавышаюць звесткі, сабраныя яшчэ ў 1994 годзе. Плошча земляў, што сталі бясплоднымі, з 1995 па 1999 год павялічылася на 52 тыс. кв. км.

У асноўным гэтае бедства назіраецца ў паўночных і заходніх раёнах краіны – у аўтаномных раёнах Унутраная Манголія і Нінся-Хуэйскім, у Тыбеце і Сіньцзяне. Не запабеглі гэтай навалы і правінцыі Ганьсу, Цінхай, Шэньсі і Хэбэй.

Пясчаныя барханы падбіраюцца ўжо і да Пекіну. Пакуль яны спыніліся за дзвесце кіламетраў ад сталіцы, пагражаючы размешчанаму непадалёк вялікаму вадасховішчу, якое забяспечвае Пекін вадою. Паводле апошніх дадзеных, пясок ужо пакрывае больш за 1,7 млн. кв. км зямлі – 18,2% усёй тэрыторыі КНР.

Кітай вядзе папраўдзе гераічнае змаганне з гэтым няшчасцем. Перш за ўсё ў краіне ідзе масавая кампанія пасадкі ахоўных лясоў у найбольш пацярпелых ад апустыньвання раёнах, а таксама ўзводзяцца сучасныя ірыгацыйныя збудаванні. Аднак, мяркуючы па ўсім, гэтага можа быць недастаткова. Пясчаныя выдмы і ўраганы працягваюць пагражаць дабрабыту краіны.

**Уладзімір ФЕДАРУК**

# Астралагічны прагноз

## ад Веранікі Кудраўцавай на 25 лютага – 3 сакавіка

***Астрапрагноз адлюстроўвае агульны прыродны сацыяльна-псіхалагічны фон накшталт прагнозу надвор'я. Індывідуальнае прагназаванне грунтуецца на дакладных звестках: улічваецца дзень, месяц, год, месца і час нараджэння чалавека.***



**АВЕН.** Нехта гатовы выказаць сапраўдную цікавасць да пытання выплаты вамі падаткаў ці вашых таемных крыніцаў даходу. Не выключана цьмяная гісторыя з органамі следства. Вам трэба дэталёва прадумаць лінію абароны. У нядзелю – прадукцыйная далёкая вандроўка. Увесь тыдзень ужывайце медыцынскія прэпараты, што падвышаюць імунітэт.



**ЦЯЛЕЦ.** Ідзе барацьба за вашых сяброў, аднадумцаў, адвакатаў са спробай знайсці «слабое звяно». Чалавечы фактар адыгрывае вырашальную ролю. У чацвер удаецца выпрацаваць акрэсленую лінію паводзінаў з сужэнцам ці партнёрам. У сераду не дазваляйце сабе грашовых выдаткаў і прэтэнзій, зрабіце дзень здароўя, паслабіўшы нагрузку. Фінансавая база вельмі няўстойлівая.



**БЛІЗНЯТЫ.** Вы будзеце вымушаныя канчаткова вызначыцца з прафесійнай арыентацыяй, з выбарам метадаў у патаемных інтрыгах, хаця ўпэўненасць у сабе досыць нізкая і шансы 50/50. Жанчына, дзіцё ці грошы адыграюць фатальную ролю, асабліва ў пятніцу і суботу. У чацвер ёсць шанец разважліва і з разумным разлікам падысці да вырашэння гэтых пытанняў.



**РАК.** Закручваецца інтрыга з дзяржаўнымі структурамі ці салідным арганізацыямі, у якіх вы можаце мець далёка не апошнюю ролю. Вы рызыкуеце грашыма і рэпутацыяй, але ёсць шанец, што сітуацыя пачнецца за спачын, а скончыцца за здароўе. У выкладчыцкай ці навучальнай дзейнасці нехта можа перабегчы дарогу.



**ЛЕЎ.** Рабіць буйную стаўку на прызнанне публікай ці атрыманне творчай працы надта рызыкоўна, асабліва ў грашовым плане. Фінансавыя гульні ўвогуле могуць спрацаваць не на вашую карысць. Шчадралюбным асобам трэба будзе зрабіць няпросты выбар між жарсцю і каханнем, між магчымымі народзінамі дзіцяці і свабодай.



**ПАННА.** Асноўныя перажыванні сканцэнтраваныя на сужэнцу ці на складанай сітуацыі з каханкам. У дзелавых людзей чакаецца суровы выбар паміж дзелавымі партнёрамі і фінансавымі плынямі, калі цана памылкі досыць вялікая. Не выключаецца сапсаванне маёмасці. Нехта пратэстуе зноў-такі з-за матэрыяльнага фактару. Асноўная задача – сфармаваць эканамічны базіс.



**ШАЛІ.** Здароўе, здароўе і яшчэ раз здароўе. Ніводная праца яго не вартая, тым болей калі прыходзіцца дзейнічаць у экстрэмальных умовах. Пажадана выключыць службовыя паездкі і быць больш асцярожным на дарогах. У чацвер пастарайцеся дамаўляцца пра паслугі з непасрэднымі выканаўцамі, а не з кіраўніцтвам, і тады справа пойдзе.



**СКАРПІЁН.** Жыццёва важнай праблемай на пачатку тыдня робіцца грашовая. Гэта можа паўплываць і на асабістае жыццё, таму прыйдзецца дзейнічаць так: альбо пан альбо прапаў. Хаця стаўка ў такіх гульнях надта высокая. Бліжэй да выходных з каханым чалавекам робіцца штосьці незразумелае, асабліва калі размова ідзе пра шлюб па каханні. Дзеці адыгрываюць найважнейшую ролю.



**СТРАЛЕЦ.** Асноўныя праблемы датычаць блізкіх, родных і маёмасці. Ідзе праверка на вашую чалавечую сутнасць. Не выключана, што трэба будзе пакласці ўсе сілы на клопат пра роднага чалавека. Але затое пад нядзелю зможаце ўздыхнуць з палёгкай. У чацвер не страцьце шансу, каб нехта закінуў за вас слоўца ў прафесійных адносінах.



**КАЗЯРОГ.** На вас залішне ўплывае рэзананс, і нечыя праблемы могуць стацца вашым лёсам. Нельга недаацэньваць ролі выпадку. На самым пачатку тыдня ў жыцці ўзнікае той, хто гатовы ўнесці бязладдзе, не выключаны скандал. Асцярожней з атачэннем: нават каханне падманлівае, хаця вельмі спакуслівае. Пачакайце з рашэннем да нядзелі.



**ВАДАЛІЎ.** Вас павінен турбаваць стан законнасці, калі размова вядзецца пра грошы. Вось і займіцеся гэтым, але пастарайцеся не ўблытвацца ў сумнеўныя гісторыі з тайнымі кампенсацыямі чыіхсьці стратаў, абменам валюты. На крайні выпадак, да нядзелі. Нехта з блізкіх можа апынуцца ў непрыгожай сітуацыі, вырашайце, як усё мірна ўладкаваць.



**РЫБЫ.** Перад вамі – найважнейшая задача, выбар, які можа змяніць вашае жыццё. Часта размова ідзе пра прафесійную запатрабаванасць. Вельмі важна злавіць шанец у нядзелю, таму не спяшайцеся. Камусьці прыйдзецца займацца нечымі фінансавымі пытаннямі, а гэта вельмі далікатная справа.

Галоўны рэдактар **Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, вул. Рафіева, д.25, корп.1. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная зорка»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1126 Нумар падпісаны ў друк 25/02/2002 (15:00) Наклад – 7.950